# ВЕСНАВОЕ ПАЛЯВАННЕ – ЦІ САПРАЎДЫ ГЭТА НЕАБХОДНА?





*Васіль Зуёнак*

## ЧЫРВОНАЕ БРЫВО...

*На ўсю акругу тата быў стралок,*
*Не варашылаўскі – куды ранейшы: царскі.*
*І сведчыў тое срэбны ланцужок*
*І прыз – гадзіннік імянны, швейцарскі.*

*Ды тата напаказ не выстаўляў*
*Здабытую стральбой узнагароду*
*І – як контррэвалюцыю – хаваў*
*Яе і ад дзяцей, і ад народа.*

*Ну, а пільней яшчэ свой прыз бярог*
*Ён ад вачэй даносчыка-суседа...*
*Ды па-ранейшаму страляць па цэлі мог –*
*Былы салдат суперніцтва не ведаў.*

*Бывала, паляўнічых сустракаў*
*І тут жа паспаборнічаць падначваў, –*
*І ўзводзіў палец цішыню курка,*
*І з цішыні той – гром ляцеў над Начай.*

*Ды толькі ў паляўнічыя не лез:*
*Ні на зайцоў не паляваў у полі,*
*Ні на ваўкоў не забіраўся ў лес, –*
*І стрэльбы ў хаце не трымаў ніколі.*

*І ўсё-ткі швагер, мысліvец Якім,*
*Падгаварыў яго схадзіць аднойчы*
*На такавішча, дзе цецерукі*
*На рулю самі пруць, закрыўшы вочы.*

*Пайшоў на золку, а дамоў ні з чым*
*Вярнуўся з дзіваваннем: «Ну і гулі!..» –*
*І больш у таты не было прычын,*
*Каб апраўдацца, – толькі і пачулі:*

*«Страляць не падымаецца рука*
*Ў чырвонае брыво цецерука...»*

ФОТА: ІГАР БЫШНЁЎ

Шаноўныя чытачы часопіса – сябры АПБ і проста аматары прыроды! Чарговы нумар нашага выдання выходзіць у свет у час, калі арганізацыя праводзіць вельмі сур'ёзную і вельмі адказную кампанію – кампанію па закрыцці веснавога палявання ў нашай краіне. І, нягледзячы на тое, што гэты нумар не прысвечаны, як папярэдні, нейкай пэўнай тэматыцы – матэрыялы ў ім вельмі разнастайныя – асноўнай, «гарачай» тэмай нумара з'яўляецца менавіта тэма веснавога палявання, а, дакладней, магчымасці яго забароны ў Беларусі.

У гэтыя дні вядзецца шырокая палеміка наконт «быць альбо не быць» у нашай краіне гэтаму, даруйце за выраз, спорту навыварат. Тэма абмяркоўваецца на розных сайтах «сусветнай сеткі», трапляе на старонкі перыядычных рэспубліканскіх выданняў, гучыць у эфіры радыё і ТБ; зразумела, што і спецыялізаванае выданне АПБ выкарыстоўвае магчымасць данесці погляд ахоўнікаў роднай прыроды да шырокай аўдыторыі чытачоў.

Як і ў любым складаным пытанні, меркаванні грамадзян наконт мэтазгоднасці веснавога палявання ў нашай краіне раздзяліліся – ёсць у нас і апаненты, большасць з іх, як няцяжка здагадацца, з'яўляецца заўзятымі паляўнічымі; ёсць і прыхільнікі – сярод іх школьнікі, студэнты, навукоўцы, дзяржаўныя служачыя, вядомыя музыканты, літаратары, дзеячы культуры, кіраўнікі розных узроўняў. Да нашага вялікага задавальнення, ёсць сярод гэтых людзей і паляўнічыя, менавіта тыя, якія не жывуць толькі сённяшнім днём, а з разуменнем і па-гаспадарску ставяцца да праблем захавання жывёльнага свету нашай краіны. Нам вельмі прыемна, што погляды АПБ у гэтым пытанні раздзяляюць беларускія Праваслаўная Царква і Каталіцкі Касцёл. Копіі лістоў ад іх за подпісамі Філарэта, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсей Беларусі, і Арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага можна ўбачыць на сайце АПБ.

Пытанне аб закрыцці веснавога палявання ў Беларусі настолькі сур'ёзнае, што хвалюе цэлы шэраг міжнародных прыродаахоўных арганізацый. Аб гэтым сведчыць адкрыты ліст да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які не так даўно друкаваўся на старонках некаторых беларускіх выданняў. Ну і, зразумела, што шырокая беларуская грамадскасць таксама не пакідае гэтае пытанне па-за ўвагай. На сённяшні дзень АПБ сабрала больш за 15 тысяч подпісаў беларускіх грамадзян, якія, таксама як і мы, за тое, каб прыпыніць веснавое паляванне – дарэчы, Беларусь, амаль апошняя краіна ў Еўропе, дзе вясной яшчэ гучаць стрэлы.

Карыстаючыся трыбунай «ПіМ», мы звяртаемся да ўсіх, каму трапіць у рукі наш часопіс, хутчэй за ўсё гэта будуць людзі, неабыякавыя да лёсу роднай прыроды: звярніцеся ў офіс АПБ і дадайце ў гэты спіс яшчэ адзін подпіс – свой. Толькі разам мы зможам дабіцца перамогі ў гэтым складаным пытанні.

*Сяргей ЗУЁНАК*

# ЗМЕСТ




На здымку: **ВЯЛІКІЯ БЕЛЫЯ ЧАПЛІ**
(фота В. Казлоўскага)

***Рэдакцыя «ПіМ» прыносіць прабачэнні Георгію Гулеўскаму, Мікалаю Гулінскаму і ўсім чытачам за памылку, якая ўзнікла ў подпісе пад здымкам Г.Гулеўскага «Поплаўны лунь» (вокладка «ПіМ» №11)***












*Галоўны рэдактар:* Віктар Фянчук
*Адказны рэдактар:* Сяргей Зуёнак
*Рэдакцыйная рада:* Уладзімір Іваноўскі, Аляксандр Вінчэўскі, Дзмітры Вінчэўскі, Ігар Бышнёў, Ірына Самусенка, Сяргей Плыткевіч, Павел Пінчук.

Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
Рэгістрацыйны №2714 ад 27.06.2008 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
*Наш адрас:*
АПБ, а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь
Тэл.: (017) 263 01 30. Факс (017) 263 06 13
E-mail: APB@tut.by. **http://ptushki.org**
*Дзейнасць АПБ падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі*
*АПБ з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком BirdLife International у Беларусі*









Выдавецтва «Рыфтур». Ліцэнзія №02330/0131891 ад 2.03.2004 выдадзена Мінінфармацыі РБ.
Надрукавана ў тыпаграфіі «Плутас-інфа».
Ліцэнзія №02330/0133111 ад 30.04.2004 выдадзена Мінінфармацыі РБ. Наклад 1000 ас. Замова №8677

# ВЕСЕННЯЯ ОХОТА – БЫТЬ ИЛИ НЕ БЫТЬ?

**Сергей ЗУЁНОК**

**В настоящее время в нашей стране в прессе и в интернете на охотничьих (и не только) форумах развернулась обширная полемика насчет целесообразности весенней охоты. Многие охотники, несмотря на свое страстное увлечение этим занятием, с пониманием относятся к проблемам, связанным с весенней охотой на водоплавающих птиц, и выступают за закрытие весенней охоты в нашей стране. Однако есть оппоненты, которые яростно выступают за то, чтобы этот пагубный «спорт» был разрешен и впредь, приводя в пользу этого массу аргументов. Поскольку вопрос о закрытии весенней охоты весьма актуален, а многие жители нашей страны попросту не знакомы с биологической подоплекой этой проблемы, редколлегия «ПіМ» пришла к решению опубликовать на страницах журнала детальный анализ этой проблемы.**



Если абстрагироваться от вопроса весенней охоты, в котором охотники (далеко не все) и природоохранные организации, да и просто здравомыслящие граждане противостоят друг другу, то напрашивается вывод, что устранением глобальных экологических причин, влияющих на сокращение численности видов (не только охотничьих), мы должны заниматься сообща. В данном материале не рассматривается вопрос весенней охоты на глухаря, тетерева и вальдшнепа, поскольку это тема совершенно отдельного разговора. Вектор деятельности коалиции общественных организаций, в которую мы входим, направлен на запрещение охоты на ВОДОПЛАВАЮЩИХ ПТИЦ, и мы в данный момент не выступаем за закрытие весенней охоты на боровую дичь. Тем не менее, следует заметить, что к настоящему моменту целый ряд организаций, включая Православную и Католическую Церкви в Беларуси, отмечают неэтичность весенней охоты как таковой, не разделяя объекты охоты на боровую и водоплавающую дичь.

Кампанию, направленную против весенней охоты, также активно поддержал известный белорусский бард Виктор Шалкевич, музыканты групп «НРМ», «Крамбамбуля», «Ляпис-Трубецкой».

***В.Г. Зубко, Государственная инспекция охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь, начальник управления анализа и контроля за охраной и использованием объектов животного и растительного мира, охотничий стаж 33 года:***

*«Что касается весенней охоты на уток, то, по моему мнению, охота с подсадной на самцов кряквы имеет полное право на существование. Это красивый традиционный и не очень добычливый вид охоты, не позволяющий нанести существенного ущерба популяции, при условии, если охотник строго соблюдает правила охоты. Охота же с чучелами и манками должна быть однозначно запрещена, поскольку названные приспособления дают находящемуся в угодьях недобросовестному охотнику (читай «браконьеру») возможность заниматься бесконтрольным отстрелом водоплавающей дичи».*

Излюбленный аргумент сторонников весенней охоты на водоплавающих – это заключение о полигамности ее основного объекта – кряквы (равно как и большинства других утиных) глубоко ошибочен: поскольку устойчивые пары у большинства наших уток формируются еще осенью. Проследить это весьма просто, даже понаблюдав за оседлыми, городскими популяциями кряквы. Более того, моногамность уток нашла отражение в физиологии размножения этих птиц, когда готовое к откладке яйцо может быть оплодотворено лишь в очень короткий промежуток времени, что предусматривает наличие своего, «стационарного» самца. В противном случае большая часть кладки будет состоять из «болтунов». При этом важно отметить, что роль селезня отнюдь не ограничивается оплодотворением яиц. Самец кряквы находится на гнездовом участке вплоть до начала линьки, которое примерно совпадает с выклевом птенцов, патрулирует его и даже сопровождает самку до гнезда. Именно поэтому отстрел самцов, проводимый в угодьях в течение полутора-двух месяцев в разгар гнездования, является существенным фактором, влияющим на успех размножения.

Как показывает практика, при стрельбе уток и гусей «влет», помимо разрешенных к отстрелу, добывается немалое количество и «неохотничьих» видов, в том числе редких и охраняемых – гусь-пискулька, крохали, шилохвость, не говоря уже про самок обычных, разрешенных к отстрелу видов. Такие охоты, как правило, проходят в вечерних или предрассветных сумерках, быстро пролетающие птицы на фоне неба выглядят темными силуэта-

***Э.Г. Самусенко, зоолог, писатель-натуралист, охотничий стаж более 60 лет:***

*«Весна – это расцвет природы, зарождение новой жизни. Эта прекрасная пора абсолютно не гармонирует с охотой, которая приносит смерть всему живому».*

***Л.Д. Бурко, канд. биол. наук, доцент кафедры зоологии биологического факультета Белорусского государственного университета, охотничий стаж 42 года:***

*«При нынешней неорганизованности и низком уровне сознания наших охотников единственный выход для сохранения популяций водоплавающих птиц – это запрет массовой весенней охоты на них. В качестве альтернативы в охотничьих хозяйствах, неукоснительно соблюдающих правила охоты, можно изымать некоторое количество самцов кряквы».*

ми, идентифицировать их за тот промежуток времени, который они находятся в поле зрения, проблематично даже для специалиста. Реально, в подавляющем большинстве случаев, охотники, игнорируя все правила, стреляют в любую налетающую на расстояние выстрела стаю, а лишь потом, подобрав добытую птицу, начинают выяснять, к какому же виду она принадлежит. Этому способствует и неграмотное заполнение охотничьих путевок, которое практикуется в некоторых охотхозяйствах страны. Так, в одном из полесских хозяйств нам приходилось сталкиваться с путевками, где вместо четкого перечисления разрешенных к добыче видов птицбыло лаконично указано «гуси» и «селезни». Если следовать обычной логике, то обладатель такой путевки может безнаказанно добывать ЛЮБОЙ вид гусей и самцов ВСЕХ видов утиных.

Что касается гусей, то длительные остановки с отдыхом и кормежкой во время весеннего перелета для них жизненно важны.

Гуси питаются низкокалорийной грубой пищей, поэтому вынуждены поглощать ее в значительных объемах, чтобы получить достаточно энергии. В период весенней миграции, в отличие от осени, диким гусям необходимо не просто восполнить жировые запасы, затрачиваемые на перелет, но и набрать достаточно ресурсов, чтобы, прилетев в тундру, сразу же приступить к гнездованию. Поскольку к местам гнездования, расположенным в тундре, гуси прибывают еще когда лежит снег, накопить достаточное количество энергии они могут только на остановках во время перелета. Именно поэтому миграционные остановки являются особенно значимыми в первую очередь для готовящихся к размножению птиц. Исследования, проведенные в местах гнездования гуся-пискульки в России, показали, что процент взрослых особей, участвующих в размножении, колеблется от 54 до 0%%. Когда же весенняя охота была закрыта (в 1984 г. и в разные сезоны 1985-93 гг.) он значительно возрастал – средняя цифра составляла 84%(Морозов, 1995).

Необходимо также иметь в виду следующий момент: несмотря на то, что весенняя охота нацелена на мигрирующих птиц, страдают от нее в первую очередь наши гнездящиеся утки. Сезон весенней охоты на гусей длится 2 месяца, на уток – почти полтора. И на протяжении этих двух месяцев десятки тысяч охотников почти ежедневно (четыре дня в неделю из семи плюс праздничные, а в случае все более многочисленных иностранных охотничьих туров – и все семь дней в неделю) «прочесывают» болотца, поймы, стремясь добыть гуся. В итоге в большинстве случаев гуся не добывают, но зато не дают ни малейшего шанса нормально отгнездиться именно нашим уткам и другим водно-болотным и околоводным птицам. Ведь сезон весенней охоты в Беларуси в значительной степени перекрывается с гнездовым сезоном у уток и других водно-болотных птиц. Научными исследованиями доказано, что беспокойство птиц приводит к снижению их упитанности, повышению смертности, эмиграции и снижению репродуктивного успеха, что ведет к отрицательным последствиям для размеров популяции. Не нужно быть ученым, чтобы понимать: в таких условиях об успешном гнездовании не может идти и речи! И результаты налицо – численность гнездящихся утиных в Беларуси в последние десятилетия постоянно снижается. Это, кстати, признают и сами охотники, многие из которых выступают против весенней охоты.

***П.И. Боголей, директор ГПУ «Республиканский ландшафтный заказник «Ельня», охотничий стаж 22 года:***

*«Весенняя охота является серьезнейшим фактором беспокойства как для гнездящихся околоводных птиц, так и для пролетных гусей, которые вынуждены менять свое кормовое поведение, что отрицательно сказывается на дальнейшем успехе размножения. Кроме того, при бесконтрольном отстреле уток и гусей, который реально происходит у нас, под выстрел попадают самки уток, а также редкие исчезающие виды, в числе которых и глобально угрожаемый гусь-пискулька».*

Безусловно, приход весны – волнующее событие для всего живого. Но весну с нетерпением ждем не только мы в своих уютных квартирах. Еще больше, чем люди, весну ждут птицы. Они преодолевают тысячи километров, в любую погоду, чтобы прилететь к местам гнездования с одной только целью – продолжить свой род. Грустно осознавать, что за заряд положительных эмоций и жизненной энергии для человека дикие птицы должны получить заряд дроби...

В свете вышесказанного странными выглядят ссылки на исторические корни этого занятия и высказывания известных людей – любителей весенней охоты. У многих, ныне вполне цивилизованных народов некогда вовсю процветал каннибализм, но это же не повод заниматься им и сейчас, ссылаясь на вековые традиции.

Если обратиться к высказываниям известных людей, то доподлинно известно, что Тургенев на смертном одре каялся и просил прощения у убитых им дупелей, а Евгений Павлович Спангенберг и Михаил Михайлович Пришвин на склоне лет коренным образом пересмотрели свое отношение к некогда страстному увлечению. Неужели нужно находиться при смерти, чтобы осознать пагубность весенней охоты?

***Митрополит Минский и Слуцкий Филарет в своем ответе для АПБ написал следующее:***

*«Вся природа, в том числе и мир птиц, дана человеку как дар Творца. В Основах социальной концепции Русской Православной Церкви одним из главных принципов позиции Церкви в вопросах экологии признается принцип единства и целостности сотворенного Богом мира: «С христианской точки зрения природа есть не вместилище ресурсов, предназначенных для эгоистического и безответственного потребления, но дом, где человек является не хозяином, а домоправителем...». Залогом бережного отношения человека к природе должна быть совесть, которая есть Божественный закон, написанный в нашем сердце. Не для утоления голода, не ради пропитания семей устраивается в наше время весенняя охота на птиц, но более ради того, чтобы потакать охотничьим пристрастиям и угождать личному тщеславию, которое часто заглушает веления совести. Поэтому другим средством охраны природы должны быть законы, устанавливаемые государством.*

*Белорусское государство проводит большую работу в области охраны природы. Поэтому Православная Церковь поддерживает инициативу общественной организации «Ахова птушак Бацькаўшчыны» и призывает соответствующие государственные учреждения обратить на эту проблему деятельное внимание и принять дополнительные меры по охране природного достояния Республики Беларусь».*

# 12 САМЫХ РАСПРОСТРАНЕННЫХ ЗАБЛУЖДЕНИЙ ПО ПОВОДУ ВЕСЕННЕЙ ОХОТЫ НА УТОК И ГУСЕЙ

***Виктор ФЕНЧУК***

**1 Весенняя охота ничем не отличается от осенней, зачем ее запрещать?**

Научно доказано, что весенняя охота наносит гораздо больший ущерб популяциям водно-болотных птиц, чем осенняя. Гуси летят весной уже сформированными парами, на пары разбиваются также и утки. Одна убитая самка утки и любой партнер из гусиной пары означают, что гнездование не состоится, и реальный ущерб популяции данного вида птиц составит 6-10 особей. В ходе охоты осенью добывается много птиц, которые не смогут перенести зимовку – молодые, ослабленные и т.д. Весной же под выстрел попадают самые сильные птицы – те, которые пережили осеннюю миграцию, долгую зимовку и готовы приступить к гнездованию.

**2 Охота не беспокоит мигрирующих птиц. Например, вспугнутые гуси просто отлетают и продолжают кормиться.**

Кроме фактической добычи и прохоластывания птиц в результате разрушения пар весенняя охота является значительным фактором стресса как для гусей, так и для уток. Исследования, проведенные на белых гусях (Канада, США), показали, что в годы без весенней охоты к гнездованию приступало 67% самок белых гусей, достигших места гнездования, в то время как в годы с весенней охотой гнездилось лишь 32% самок. Гуси прилетают на места зимовки в тундре, когда там еще лежит снег, поэтому если они не смогли набрать достаточно жировых запасов, то не могут приступить к гнездованию, а в ряде случаев даже умирают на гнездах от истощения. Таким образом, ущерб, наносимый популяциям птиц в результате стресса в ходе весенней охоты, гораздо более значителен, чем осенью, так как состояние птиц весной существенно влияет на успех размножения.

CURIA METROPOLITANA
MINSCENSIS-MOHILOVIENSIS



МІТРАПАЛІТАЛЬНАЯ КУРЫЯ
МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ
РЫМСКА-КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА
У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

ul. Revolutsionnaja, 1a, 220030 Minsk, Belarus
tel./fax +375 17 203 68 44, fax +375 17 226-9092
e-mail: archdioces@catholic.by

вул. Рэвалюцыйная, 1а, 220030 г. Мінск, Рэспубліка Беларусь
тэл./факс +375 17 203 68 44, факс +375 17 226-9092
e-mail: archdioces@catholic.by

Р/р 3015014370019 Філіял па г. Мінску ААТ ВПСБ, код 334.
УНН 101568363, ОКПО 37566245

№ 121/k/08
«9» 04 2008г.

Аматары прыроды, біёлагі, спецыялісты па ахове навакольнага асяроддзя ў Беларусі і ў іншых краінах вельмі заклапочаныя няўхільным зніжэннем колькасці папуляцый большасці відаў вадаплаўных птушак, паляванне на якія у нашай краіне дазволена ў перыяд веснавой міграцыі і размнажэння.

У большасці краін Еўропы, уключаючы нашых суседзяў, веснавое паляванне забароненае, як з прычыны той шкоды, якую яно наносіць жывой прыродзе, так і з этычных меркаванняў. У прыватнасці, такое паляванне забароненай Дырэктывай Савета Еўропы ад 2 красавіка 1979 г. (79/409/ЕС) аб ахове дзікіх птушак.

Веснавое спартыўнае паляванне вядзецца не для забеспячэння надзённых патрэбаў чалавека, а выключна для задавальнення яго эгаістычных інстынктаў, што супярэчыць Божаму плану збаўлення. Гэты свет быў створаны Богам дасканалым, і чалавеку дадзена ў ім дастаткова рэсурсаў для разумнага і адказнага карыстання, дзеля ўласнага дабра, самаўдасканалення, творчасці, дасягнення гарманічнага суладдзя з прыродай, уласным сумленнем і з самім Творцам. Чалавек паклiканы да стрымлівання сваіх эгаістычных інстынктаў, а не да патурання ім. Разбураючы створанае Богам хараство Прыроды, забіваючы птушак Божых дзеля атрымання імгненнай асалоды, чалавек тым самым абражае Бога.

Я падтрымліваю ініцыятыву грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» па забароне веснавога палявання на вадаплаўных птушак, і заклікаю хрысціянаў і ўсіх людзей добрай волі, не чакаючы фармальнай забароны, устрымацца ад гэтага занятку. Час, аддадзены гэтаму жорсткаму спорту, Касцёл прапануе прысвяціць мірнаму дыялогу з прыродай, з іншымі людзьмі, праслаўленню створанага Богам хараства гэтага свету ў малітве і ў практычных справах.

З павагай




Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч
Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі

**3 Наших гусей и уток убивают на зимовке миллионами – размеры добычи весной гусей и уток в Беларуси не идет с этим ни в какое сравнение.**

Неправда. В Нидерландах и Германии, где зимует около 80% всех гуменников и белолобых гусей, эти виды исключены из числа охотничьих, а суммы компенсаций, выплачиваемых правительствами этих стран владельцам полей, на которых зимуют гуси, ежегодно составляют несколько миллионов евро. В других странах – местах зимовки гусей охота на них зимой также почти не практикуется (например, в Бельгии – только на осеннем пролете, ограничена одним месяцем и разрешена только на серого гуся). А во Франции, которую часто приводят в качестве примера, гуси практически не зимуют.

Что касается уток, то в ряде крупных охотничьих стран из уток охотничьим видом является только кряква (Германия, Нидерланды), при этом до 50% добываемых зимой крякв (в т.ч. в Дании, Франции), являются разводными. А некоторые виды (чироктрескунок) вообще зимуют в Африке, где на них охотятся почти исключительно европейские охотники.

**4 Весеннюю охоту в Беларуси запрещать нет смысла, т.к. в России мигрирующих птиц все равно встретят с ружьями!**

Единственной страной в Европе, кроме Беларуси, где разрешена весенняя охота на водоплавающих, является Россия. Однако срок весенней охоты в России всего 10 дней, а не 40-60, как у нас. Более того, весеннюю охоту на водоплавающих птиц уже и в России многие регионы несколько лет не открывают. Так что именно над территорией Беларуси мигрирующим весной уткам и гусям приходится тяжелей всего!

**5 С гусями понятно, но запрещать весеннюю охоту на уток нелогично – ведь она разрешена только на селезней!**

Действительно, весенняя охота на уток разрешена только с подсадными и только на селезней. Однако сроки весенней охоты совпадают с гнездовым сезоном уток и других водно-болотных птиц (пастушковых, чаек, крачек), поэтому охота оказывает крайне негативное влияние на успешность размножения всех наших водно-болотных птиц из-за постоянного беспокойства гнездящихся птиц находящимися в угодьях охотниками, собаками, выстрелами. Ведь, как правило, для самых богатых охотничьих угодий характерны и самые высокие показатели разнообразия и численности птиц, в том числе редких.

**6 Главные факторы снижения численности утиных в Беларуси – осушение и химизация сельского хозяйства, а не весенняя охота.**

Широкомасштабная мелиорация а также программа противопаводковой защиты в Беларуси привели к значительному сокращению площадей водно-болотных угодий – болот и заболоченных или затапливаемых пойм рек, и это стало ключевым фактором резкого снижения численности гнездящихся уток в Беларуси. Свой вклад вносят и глобальные климатические изменения. С каждым годом мест массовых миграционных остановок и гнездования водно-болотных птиц становится меньше. Но именно такие места каждую весну привлекают не только птиц, но и охотников. Сезон охоты на уток в Беларуси совпадает(!) с гнездовым сезоном, когда самки сидят на гнездах или находятся рядом с выводками, поэтому весенняя охота и нахождение в угодьях охотников являются существенным фактором воздействия на гнездящихся утиных – как из-за добычи птиц, так еще в более значительной степени – из-за беспокойства гнездящихся уток.

Еще В.Н.Шнитников, автор книги «Птицы Минской губернии» (1913), который работал на Полесье с 1897 по 1907 гг., отмечал резкое сокращение численности уток, связывая это с распространением огнестрельного оружия.

Мелиорация же на Полесье началась только в 1913 году, а широкомасштабных размеров достигла во второй половине XX века.

**7 Охота в Беларуси гораздо менее популярна, чем во многих других европейских странах, поэтому едва ли вообще стоит брать ее в расчет.**

Численность охотников на долю населения в Беларуси примерно такая же, как в среднем по Европе. В Беларуси примерно 1% населения – охотники. В 22 европейских странах доля охотников составляет 0,5-1,5% от населения (к примеру, в Германии – 0,4%, Италии – 1,2%, в Бельгии – 0,2%). Существенно больший процент охотников (свыше 3%) только в странах Скандинавии, Ирландии, на Кипре, в которых водоплавающие птицы не зимуют.

**8 Это западные охотники хотят запретить охоту в Беларуси, чтобы снизить беспокойство на путях миграции и спокойно охотиться у себя.**

Как раз наоборот. В интересах иностранных охотников и европейских охотничьих ассоциаций сохранить и максимально расширить весеннюю охоту в Беларуси – ведь итальянцы, французы, немцы не могут охотиться весной у себя. В интернете сейчас существуют сотни сайтов, белорусских и иностранных, приглашающих на теперь уже эксклюзивную весеннюю охоту в нашу страну, в том числе и в наши нацпарки! В итоге от этих охотничьих туров страдают наши птицы и, следовательно, наши охотники.

**9 Закрытие весенней охоты лоббируется ради интересов небольшой группы «зеленых», а страдают из-за этого тысячи охотников.**

За закрытие весенней охоты в Беларуси выступают тысячи людей, поставивших свои подписи под соответствующим обращением, а также целый ряд организаций и общественных деятелей. Инициатива по прекращению охоты на водоплавающих птиц весной поддержана Белорусской Православной Церковью и Римско-католическим Костелом в Беларуси. К акции присоединились известные государственные и общественные деятели.

Также следует учитывать, что миллионы белорусов не являются охотниками и они чисто по-человечески против убийства птиц ради удовольствия горстки людей.

***В.В. Ивановский, председатель ОО «Ахова птушак Бацькаўшчыны», и.о. директора Витебской районной организационной структуры РГОО БООР, охотничий стаж 33 года:***

*«Я против весенней охоты на гусей, потому что охота эта нетрадиционная, пришла к нам лет десять назад из России, куда в свою очередь попала из Италии. Весной под выстрел попадают взрослые элитные птицы, которые пережили зиму и способные принести потомство. Поскольку пары у гусей формируются на зимовке, то добыча любого из партнеров автоматически обозначает ущерб в один выводок осенью».*

**10 Мигрирующие гуси весной наносят большой ущерб сельскому хозяйству, поедая и вытаптывая озимые.**

В последнее время мигрирующие гуси все больше стали использовать сельскохозяйственные поля для миграционных остановок. Но такое изменение миграционной стратегии гусей связано в первую очередь с высоким уровнем беспокойства весной в излюбленных местах кормежки гусей – в поймах рек из-за проводимых там охоты на гусей и уток. В связи с этим гуси вынуждены изменять стратегию питания и, стремясь сократить количество перелетов, кормиться на открытых полях, а также включать в рацион более питательные зерновые.

**11 Запрет весенней охоты послужит дальнейшему развалу системы охотничьего хозяйства, увольнению егерей и, как следствие, увеличению браконьерства.**

Как раз наоборот. Именно открытие весенней охоты резко усиливает браконьерство. Для охотника-браконьера психологически гораздо труднее нарушить запрет и выйти с ружьем в охотугодья в закрытое для охоты время, чем застрелить редкую птицу, легально находясь в угодьях в период открытой массовой весенней охоты.

**12 Весенняя охота является традиционным видом охоты для Беларуси. Запрещая весеннюю охоту, мы разрушаем наши вековые традиции.**

Весенняя охота на уток никогда не была в Беларуси (за исключением Полесья) «традиционым промыслом». Наоборот, в народной культуре с прилетом птиц связано множество примет, обрядов. Точно так же существуют и давние традиции охраны птиц весной. С конца XVII столетия на территории современной Беларуси действовало ограничение «марта с 1-го до Петрова дня никогда и нигде во всем государстве зверей и птиц не ловить, так и с собаками не ездить и не стрелять под штрафом». Во времена Советского Союза в Беларуси весенняя охота была повсеместно закрыта, за исключением территории отдельных (привилегированных) хозяйств, где осуществлялся жесточайший контроль правил ведения охоты. Массовая весенняя охота в Беларуси была открыта лишь с начала 1990-х годов. А весенняя же охота на гусей раньше вообще почти не была известна и стала набирать популярность лишь в последнее время, когда рядовым охотникам стали доступными чучела и профили птиц, а также манки.

***В.Н. Протасевич, директор ГПУ «Республиканский биологический заказник «Споровский», охотничий стаж 7 лет:***

*«Весенняя охота на водоплавающую дичь в нашей стране должна быть запрещена, поскольку она является серьезным фактором беспокойства для гнездящихся и мигрирующих птиц. Кроме того, при почти полной бесконтрольности в нашей системе ведения охотничьего хозяйства во время таких «охот» зачастую отстреливаются редкие охраняемые виды, а также самки утиных».*

# СТО ГОД АПОШНЯМУ ДЗІКАМУ ВАНДРОЎНАМУ ГОЛУБУ

**Дзьмітры ВІНЧЭЎСКІ**

Гэты від птушак быў, напэўна, самым шматлікім на зямлі! Яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя яго колькасць ацэньвалася ў 5–10 мільярдаў. Аднак не прайшло і стагоддзя, як від цалкам знік у дзікай прыродзе.

У 1857 годзе камітэт сенату штата Агайа разглядаў прапанову прыняць біль аб ахове вандроўнага голуба. Адказ і сёння ўражвае глыбінёй і магчымасцю палітыкаў «прадказаць будучыню»: «Вандроўнаму голубу не патрэбна ахова. Цудоўна ізабілуючы, ён мае вялізныя гнездавыя тэрыторыі лясоў на Поўначы (ЗША), вандруе сотні міль у пошуках ежы, ён ёсць сёння тут і паўсюль заўтра, і ніякія звычайныя знішчэнні не могуць зменшыць іх /колькасць/, або быць страчаны тыя мірыяды /птушанят/, якія яны штогод выгадоўваюць».



Чароды вандроўных галубоў часам засланялі паўнеба

Ад вандроўных галубоў засталося толькі некалькі чучалаў, скурак і шкілетаў у навуковых калекцыях. Аднак няма ніякіх сумненняў наконт таго, КУДЫ падзеліся мільярды птушак. Яны сістэматычна і ўпарта знішчаліся для ежы і на продаж. Дзе б яны ні гнездаваліся, людзі перасьледавалі іх.

Кароткая акуратная чорная дзюба была прыстасавана да харчавання жалудамі, букавымі арэшкамі, каштанамі, рознай садавінай і насеннем лясных раслін, вясною і летам дыета ўзбагачалася чарвякамі і жамярой. Гэтая птушка была літаральна створана для палёту. Паводле розных меркаванняў, галубы маглі ляцець з хуткасцю да 90 і нават 110 кіламетраў на гадзіну.

Від быў распаўсюджаны ў спелых змешаных лясах, ад іх існавання галубы залежалі і пад час гнездавання, і пад час зімоўкі. Вандроўныя галубы гнездаваліся вялікімі калоніямі – да 90–100 гнёздаў на адным дрэве. Плошча калоній на падыходзячых тэрыторыях значна рознілася – ад 50 да больш чым 1000 кв. кіламетраў лесу. Гняздо ўяўляла сабой рыхлую пабудову з тонкіх галінак. Звычайна галубы адкладвалі толькі адно яйка, якое наседжвалі ад 12 да 14 дзён абедзве птушкі. Пасля вылуплення бацькі займаліся птушанём яшчэ на працягу двух тыдняў, а потым, яшчэ малое, яно саскоквала з гнязда і было



Вядомы мастак і навуковец Д.Д.Адзюбон замалёўвае вандроўных галубоў

вымушана самастойна здабываць сабе ежу на зямлі да таго часу, як пачынала лётаць. Галоўныя гнездавыя тэрыторыі віду працягваліся ад Вялікіх Азёр да Нью-Йорка на ўсходзе. Некаторыя птушкі выпадкова залятаў за Скалістыя горы ў Арэгон, Паўночную Каліфорнію і Вашынгтон. Месцы зімоўкі займалі лясы ад Арканзаса да Паўночнай Караліны, дзе ў падыходзячых месцах на начлег збіраліся велізарныя чароды гэтых птушак. Часам пад іх цяжарам ламаліся нават тоўстыя галіны старых дрэваў, а шум ад галубоў, якія ўладкоўваліся на начлег, разносіўся навокал на мілі. З раніцы птушкі разляталіся па наваколлі ў пошуках ежы, калі ж яе пачынала не хапаць, яны пералятаді на новыя месцы.

Веснавыя і асеннія міграцыі галубоў былі моцным уражаннем для кожнага, хто гэта бачыў.

Заснавальнік амерыканскай арніталагіі Аляксандр Уілсан сваю першую сустрэчу з вандроўнымі галубамі, якая адбылася пад час аднаго з яго падарожжаў апісаў наступным чынам: «Здарылася так, што адным прыемным ранкам я выйшаў купіць малака ў дом, які стаяў ля ракі. Калі я размаўляў з гаспадарамі, мяне раптам ахапіў жах: я пачуў нейкі дзіўны гул, які набліжаўся, хутка пацямнела, і я спачатку падумаў, што гэта тарнада. Я пачаў непакоіцца пра лёс будынку і гаспадаркі, дзе знаходзіўся. Убачыўшы маё здзіўленне і непакой, гаспадары спакойна сказалі: «Гэта толькі галубы!» Выбегшы на двор, я сапраўды ўбачыў вялізную чараду птушак, якая ляцела паміж домам і пагоркам на супрацьлеглым беразе ракі. Галубы без перапынку ляцелі шырокім фронтам каля чвэрці гадзіны, увесь час змяняючы форму свайго воблака...» Пазней Уілсан спрабаваў ацаніць колькасць вандроўных галубоў у адной з чарод, якую ён бачыў: «Каб даць нават вельмі прыблізную ацэнку адной з гэтых бязмерных чарод, трэба спачатку

знайсці спосаб прыблізнага падліку птушак, якія праляталі паміж Франкфортам і Індыянай. Калі мы прымем, што гэтае воблака з птушак было шырынёй з мілю (а я падазраю, што нашмат больш), і што яно рухалася з хуткасцю міля ў гадзіну на працягу чатырох гадзін, гэта дасць нам прыблізную даўжыню ў 240 міль. Яшчэ прыняўшы, што ў кожным кубічным ярдзе гэтага воблака ляцяць тры галубы, мы атрымаем іх прыблізную колькасць: 2 230 272 000 птушак! Цяжка ўявіць такую колькасць птушак, аднак і гэтая фантастычная лічба, напэўна, яшчэ далёкая ад сапраўднасці».

Паводле сучасных разлікаў навукоўцаў, яшчэ да сярэдзіны XIX стагоддзя кожная чацвёртая ці нават трэцяя дзікая птушка ў Паўночнай Амерыцы была вандроўным голубам!

Аднак вялікая тэрыторыя, на якой жылі галубы, і іх неверагодная колькасць не выратавалі від ад знішчэння – птушак забівалі з дапамогай стрэльбаў, сетак і палак паўсюль, дзе б яны ні з'явіліся.

Гісторыя знікнення вандроўнага голуба як віду ганебная і доўгая. Аднак неабмежаваныя памеры знішчэнне атрымала ў другой палове XIX стагоддзя.

Пасля значнага пашырэння чыгункі, якая працягнулася ў заходнія штаты і злучыла паміж сабой большасць вялікіх гарадоў Злучаных Штатаў, мільёны забітых галубоў сталі дастаўляцца на рынкі ўсё большай колькасці амерыканскіх паселішчаў. А развіццё тэлеграфу дало сотням прафесійных дзялкоў-паляўнічых магчымасць паляваць на галубоў паўсюль, дзе б яны ні з'яўляліся. Знішчэнне галубоў прыняло маштабы сапраўднай індустрыі.

Найбольш маштабнае забойства птушак шмат гадоў працягвалася ў Мічыгане, Агайа і Пенсільваніі. У 1848 годзе штатам Масачусетс быў прыняты закон, які ахоўваў паляўнічых з сеткамі на галубоў ад староннягa ўмяшальніцтва. Штраф за пашкоджанне сеткі або адпужванне ад яе галубоў складаў 10 долараў.

У 1869 годзе толькі ў адным гарадку Гартфорт у штаце Мічыган штодзень на працягу 40 дзён на мясцовы рынак прывозілі па тры вагоны, запоўненыя забітымі галубамі. Прыблізная колькасць знішчаных такім чынам птушак складала 11 880 000 асобін! У іншым мічыганскім гарадку за два гады толькі праз рынак прайшло амаль 16 мільёнаў вандроўных галубоў, якія, зразумела, перад гэтым былі забітыя. Іх прадавалі па 50, 25 і нават па 20 цэнтаў за тузін. Галубы былі «стравай дня» на сняданак, абед і вячэру так доўга, пакуль толькі ад іх назвы не цягнула на ваніты.



**Мемарыяльная шыльда апошняму вандроўнаму голубу штата Ўісконсін, забітаму ў 1899 годзе**

Найбольш лёгкай здабычай былі птушаняты, якіх спіхвалі з гнёздаў доўгімі палкамі, забівалі са стрэльбаў, а калі не маглі дастаць такім чынам, раскладвалі пад дрэвамі вогнішчы, дым ад якіх прымушаў яшчэ нялётных птушанят скакаць з гнёздаў уніз...

Дарослых птушак таксама забівалі ўсімі магчымымі спосабамі: ім скормлівалі насычанае спіртам зерне, іх увагу прыцягвалі жывымі галубамі, змешчанымі ў клеткі, а потым стралялі і лавілі сеткамі. Галубы былі ежай не толькі для людзей, іх скормлівалі тонамі свойскім свінням. З 1830-х гадоў стала папулярным практыкавацца ў стральбе па жывой мішэні, выпускаючы вандроўных галубоў з клеткі. Толькі ў 1870-х такім чынам было застрэлена не менш 250 тысяч птушак.

У 1878 годзе ў штаце Мічыган каля Петоскі толькі адзін прафесійны паляўнічы зарабіў за сезон 60 тысяч долараў, забіўшы каля 3 мільёнаў галубоў і прадаўшы іх на рынках заходніх штатаў. У гэты год штодзень у Мічыгане забівалі па 50 тысяч птушак каля іх гнёздаў, і гэтак працягвалася амаль 5 месяцаў! Калі дарослыя птушкі, якія пазбеглі знішчэння, спрабавалі зрабіць паўторныя кладкі ў гнёздах на новых месцах, яны хутка вылічваліся прафесійнымі паляўнічымі і забіваліся да таго, як паспявалі вывесці хаця б адно птушаня. Так была знішчана апошняя вядомая вялікая гнездавая калонія віду.

У 1867 годзе штат Нью-Йорк знайшоў, што дзікія галубы патрабуюць аховы, і прыняў для гэтага адмысловы закон. Наступны, 1868 год быў апошнім, калі назіралася вялікая колькасць гняздуючых птушак у штаце.

У 1870 годзе пад ахову, «акрамя сезону палявання», вандроўных галубоў узяў штат Масачусетс, яшчэ праз 8 год ахоўваць гэтых птушак на іх гнездавых тэрыторыях вырашыла Пенсільванія.

Аднак да пачатку 1890-х гадоў вандроўны голуб знік у прыродзе амаль паўсюль. У 1896 годзе паляўнічымі была свядома знішчана апошняя вядомая параўнальна вялікая чарада з прыкладна 250 тысяч птушак. У 1897 годзе штат Мічыган прыняў біль, які абвяшчаў 10-гадовы мараторый на паляванне на гэты від птушак. Але ўжо было позна. Мільярды вандроўных галубоў зніклі так хутка, што амерыканцы яшчэ доўгі час не маглі паверыць, што такое ўвогуле магчыма. Шмат гадоў «знаўцы» размаўлялі пра «вялікія чароды, якія адляцелі ў Паўднёвую Амерыку» або ў Мексіку. Тысячы разоў галубы «адзначаліся» ў розных месцах, аднак праверкі даводзілі памылковасць гэтых «рэгістрацый». Ньюйоркскае заалагічнае таварыства, куды сцякаліся ўсе падобныя назіранні, было вымушана шматразова тлумачыць, што кальцахвосты голуб з ціхаакіянскіх узбярэжжаў і чырвонадзюбы голуб з Арызоны – гэта не вандроўныя галубы і ніколі імі не стануць.

Каб канчаткова пацвердзіць ці пахаваць надзею на магчымасць сустрэчы вандроўнага голуба ў дзікай прыродзе, з 1909 па 1912 год Амерыканскі арнiталагічны саюз паступова павялічваў узнагароду за знойдзеную калонію ці хаця б адну гняздуючую пару гэтага віду ад 1500 да неверагоднай для тых часоў сумы ў 5000 долараў. Аднак тысячы «назіранняў» вандроўнага голуба пасля іх праверкі аказаліся назіраннямі птушак іншых відаў.

Апошні вядомы дзікі вандроўны голуб быў забіты на чучала 14 верасня 1908 году каля Дэтройта ў Мічыгане. Такім чынам, у 2008 годзе мы адзначаем 100-годзе гэтай сапраўды трагічнай падзеі...

Заапарк горада Цынцынаці, у якім некалькі год жыла апошняя прадстаўніца гэтага віду галубка Марта, у 1910 годзе зрабіў апошнюю спробу выратавання вандроўнага голуба і абвясціў пра ўзнагароду ў 1000 долараў таму, хто здолее злавіць і даставіць у заапарк самца вандроўнага голуба, каб мець магчымасць стварыць пару. Па ўзнагароду ніхто ніколі не звярнуўся.

Марта памерла ў адзіноце ва ўзросце 29 гадоў 1 верасня 1914 года.

**Сумны лёс гэтага віду павінен паслужыць урокам для наступных пакаленняў людзей. Бо кожны – нават самы шматлікі від птушак або звяроў – можа быць знішчаны на працягу якіх-небудзь 20 гадоў, калі гэта заахвочваецца камерцыйна.**

# Паўночныя джэнтльмены

**Георгі ГУЛЕЎСКІ,** ганаровы сябра АПБ, Гродна. Здымкі аўтара

Ад сяброў я даведаўся, што на незамярзаючых ачышчальных сажалках ВА «Гродна-Азот» з'явіліся качкі незвычайнай афарбоўкі: белае апярэнне чаргавалася ў іх з чорнымі плямамі і было вытанчана падзелена на асобныя ўчасткі выразнымі тонкімі чорнымі палоскамі. Да ўсяго гэтага экзатычнага ўбору трэба дадаць і прыгожы белачорны чуб. Гэта былі качары савукоў-луткоў – невялікіх качак, крэўныя таксама паўночных рыбаедных качак – вялікіх савукоў. У абодвух відаў незвычайныя для качак выцягнутыя тонкія дзюбы з рагавымі зубчыкамі па краях, якія заканчваюцца кручком – выдатнае прыстасаванне для лоўлі рыбы, якую яны здабываюць, ныраючы пад ваду.

«Та-аак», – працягнуў я, бо такіх элегантных качак мне яшчэ не даводзілася бачыць. Натуральна, мне захацелася сфатаграфаваць гэтых незвычайных птушак. У апошні студзеньскі дзень я вырашыў паехаць і паглядзець на рэдкіх паўночных гасцей.

Аднак у першы раз сфатаграфаваць іх не атрымалася. У бінокль я добра разгледзеў прыгажуноў і адзначыў іх улюбёнае месца харчавання ў дальнім правым кутку самай вялікай сажалкі.

На наступны дзень, падрыхтаваўшы белы маскіровачны касцюм, я паехаў на сажалкі зноў. Надвор'е сапсавалася, і мая спроба зноў скончылася няўдачай. Да недахопу святла я дадаў і сваю памылку, бо няправільна абраў пазіцыю для здымкаў. Схаваўшыся за густы трыснёг, я беспаспяхова спрабаваў навесці рэзкасць на луткоў, якія плавалі ўсяго ў пяці метрах ад мяне. У выніку ніводнага добрага здымку мне зрабіць не ўдалося.

На трэці дзень сітуацыя паўтарылася з тым адрозненнем, што мая фататэка папоўнілася двума здымкамі савукоў-луткоў, якія я здолеў зрабіць метраў з васьмідзесяці. Аднак адмоўны вынік даў мне важны досвед.

Да чацвёртай спробы я падрыхтаваўся найбольш грунтоўна. Спачатку разгледзеў птушак у бінокль – яны, як звычайна, займалі пазіцыю недалёка ад правага берага, бліжэй да лесу. Я асцярожна абыйшоў вялікую сажалку, у прыбярэжных зарасніках трыснягу знайшоў прагаліну і, прыкрываючыся невялікім пагоркам з высокай сухой травой, падпоўз так, каб праглядаць добры кавалак вады перад сабой. Метрах у дзесяці ад мяне плавалі качкі-крыжанкі і вялікія савукі – бліжэйшыя крэўныя луткоў. Самі ж савукі-лутки – а іх у гэты раз аказалася ажно пяць (тры самцы і дзве самачкі) – плавалі даволі далёка ад маёй схованкі.



Праз нейкі час мае будучыя фотагероі наблізіліся метраў на пятнаццаць і прыняліся рыбачыць. Вось адзін з іх нырнуў і хутка вынырнуў, трымаючы нешта цёмнае ў дзюбе. Выцягнуўшы шыю, лутук стараўся гэтае нешта праглынуць, але здабыча, напэўна, была завялікай для яго. За паспяховым рыбаловам увязалася крыжанка, якая хацела адабраць здабычу ў амаль у два разы меншага савука-лутка. І вось, ратуючыся ад крыжанкі, лутук падплыў да мяне на пэўны фотастрэл. Я паспеў зрабіць тры здымкі і толькі пасля гэтага разгледзеў, што ў дзюбе невялікай качкі зусім не рыбка, а сярэдніх памераў сажалкавая жаба! На жаль, канец пагоні мне ўбачыць не давялося, бо качкі схаваліся за густым трыснягом.

У гэты раз я добра схаваўся, і праз некалькі хвілін да маёй схованкі падплылі яшчэ два «франты» ў бела-чорных фраках. А яшчэ пазней у мяне атрымалася сфатаграфаваць і заляцанні самцоў да цёмна афарбаваных, з выразнай белай шчакой самачак.

# Клинтух

**Николай ГУЛИНСКИЙ**

Из наших лесных голубей клинтух встречается реже других. Связано это с тем, что гнездится он в высоковозрастных лесах, а свои гнезда устраивает не «по-голубиному» в дуплах. Чаще всего клинтух занимает старые дупла черного дятла. В последнее время из-за недостатка подходящих дупел он стал довольно редкой птицей.

В этом году уже в середине марта на опушке соснового бора недалеко от деревни Зеленая, что на Гродненщине, токовали две пары клинтухов. Глухие голоса голубей «ху-хуу-ху» периодически раздавались в течение дня. Раньше так рано токующих клинтухов мне не приходилось слышать. Год назад здесь в дупле желны клинтухи вывели двух птенцов. В этом году в расположенном неподалеку другом старом дупле черного дятла клинтухи заселились уже в конце марта. Периодические наблюдения за местом гнездования еще раз подтвердили известные сведения об осторожности, скрытности и пугливости этой птицы. Вылетев из дупла, клинтух возвращался обратно минут через 15–20, а прежде, чем залететь в него, несколько минут сидел на сосне и наблюдал за окружением, затем перелетал с одного дерева на другое. Даже проехавшая в сотне метров по лесной дороге автомашина вызвала его беспокойство, и голубь улетел. Потом вернулся и опять уселся недалеко от дупла на сосне. В это время любопытная самка большого пестрого дятла попыталась заглянуть в дупло, но была немедленно атакована и изгнана клинтухом. Однако даже после этого голубь не залетел в дупло. Еще трижды клинтух подлетал к нему, садился на край летка, осматривался и, наконец, скрылся в дупле.

Возможно, это один из самых ранних сроков гнездования клинтуха в Гродненской области. Надеюсь, что у голубей получится успешно вывести птенцов.

# Птушкі Тураўскага

Пэўна ўжо нікому з чытачоў нашага часопіса не трэба доўга распавядаць, што такое ТВП (Тэрыторыя Важная для Птушак) «Тураўскае Балонне». Невялічкая, усяго 140 гектараў, тэрыторыя, якая знаходзіцца проста за тураўскімі ваколіцамі, зараз вядома аматарам прыроды з усяе Еўропы. Зараз Тураўскае Балонне перададзена ў доўгачасовую арэнду АПБ для выканання прыродаахоўных мерапрыемстваў: сенакашэння, ачысткі ад хмызнякоў, выпасу. Такую вядомасць гэты, на першы погляд, нічым не прыкметны поплаў, які, дарэчы з'яўляецца выганам і месцам адпачынку жыхароў і гасцей Турава, атрымаў дзякуючы ўнікальным умовам, якія стварыліся на ім пад уздзеяннем менавіта шэрагу фактараў. Як вынік, на поплаве ў значнай колькасці гняздуецца цэлы шэраг водна-балотных відаў птушак, у тым ліку рэдкіх і ахоўваемых як на нацыянальным, так і на міжнародным узроўнях. Акрамя таго, падчас міграцый Тураўскі поплаў з'яўляецца адным з найбольш важных на поўдні Беларусі месцаў прыпынку пералётных птушак, у першую чаргу кулікоў.

Зусім невыпадкова Балонне стала месцам правядзення першага нацыянальнага чэмпіянату па фотапаляванню, арганізаванага часопісам «Дикая природа» (выдавецтва «Рыфтур») пры актыўнай падтрымцы АПБ. Чэмпіянат адбыўся ў красавіку гэтага года. Хутчэй за ўсё, у Беларусі, а, пэўна, і ва ўсёй Еўропе, няма іншага месца, дзе пад бяскроўны стрэл фотастрэльбы можа трапіць такая колькасць трафеяў. Выпрабаваць ўдачу і памерацца сіламі тут сабраліся амаль усе вядомыя фатографы-анімалісты краіны. Аб тым, што ў іх атрымалася, вы можаце даведацца на сайце www.wnpclub.com. На нашых жа старонках надрукаваны здымкі, якія занялі прызавыя месцы.

Рэдакцыя шчыра віншуе пераможцаў і жадае ім поспехаў у будучых чэмпіянатах.

*Сяргей ЗУЁНАК*



Кулік-шчогаль. Фота Васіля Фядосенка





Гусі-гуменніцы. Фота Анатоля Кляшчука



Птушаня кнігаўкі. Фота Віктара Казлоўскага. (1-е месца)



Самка баталёна. Фота Сяргея Сіроткіна



Кнігаўка. Фота Васіля Фядосенка

# Балоння



Кулік-марадунка. Фота Анатоля Кляшчука. (2-е месца)



Белы бусел. Фота Васіля Фядосенка. (2-е месца)







Малыя крычкі. Фота Сяргея Сіроткіна. (3-е месца)



Качкі-лапаноскі. Фота Віктара Казлоўскага

Баталёны. Фота Андрэя Несцерава. (3-е месца)



Баталёны. Фота Наталлі Аблажэй. (3-е месца)







Здымае Дзмітры ЯКУБОВІЧ, *Гродна*





1 Шпак
2 Удод
3 Кнігаўка
4 Дрозд-спявун
5 Жоўтая пліска
6 Гіль (самец)





# ЗНАЁМЫ НЕЗНАЁМЫ СЫЧ-СІПЕЛЬ

**Вадзім ПРАКАПЧУК.** Здымкі аўтара

З усіх відаў соў, якія сустракаюцца ў Беларусі, сыч-сіпель, безумоўна, бліжэй за ўсіх селіцца да людзей. Аднак не заўсёды людзі добразычліва адносяцца да яго, і асноўнай прычынай з'яўляецца тое, што мы практычна нічога, альбо вельмі мала ведаем аб ім. А расказаць ёсць што... На самой справе чалавецтва знаёма з гэтай птушкай вельмі даўно. Яшчэ старажытныя грэкі вельмі любілі і шанавалі яе. Менавіта сыч-сіпель быў спадарожнікам Афіны. Нездарма яго радавое імя Athene сугучна з імем багіні, і менавіта ён з'яўляецца сімвалам мудрасці сярод птушак, а не пугач ці іншыя вялікія совы, як думаюць многія.



У Беларусі гэтая аселая «чырвонакніжная» сава сустракаецца па ўсёй тэрыторыі, але вельмі нераўнамерна. У антрапагенным ландшафце сычы пасяляюцца ў самых розных месцах: на гарышчах, ў нішах, трубах, вентыляцыйных хадах жылых і гаспадарчых пабудоў, у дуплах дрэў. Ахвотна засяляюць штучныя гнездавыя скрыні. Як паказалі спецыяльныя даследаванні, у Беларусі найчасцей за ўсё сычы ўладкоўваюць свае гнёзды ў плітах перакрыцця розных збудаванняў, аўтобусных прыпынкаў, трансфарматарных падстанцый у населеных пунктах і на сельскагаспадарчых фермах і комплексах. Справа ў тым, што бетонныя пліты перакрыцця, якія выкарыстоўваліся пры будаўніцтве, практычна заўсёды мелі незамураваныя з аднаго боку адтуліны. Па сутнасці, гэта бетонная нара падыходзячага дыяметру, практычна недаступная для драпежнікаў. Адзіным фактарам, які азмрочвае жыццё сычоў у трансфарматарах, з'яўляецца даволі вялікая колькасць выпадкаў гібелі дарослых і маладых птушак ад электрычнага току. А яшчэ гэта вядзе да часовых праблем з электрычнасцю, за што птушак і не любяць электрыкі.

Дамовы сыч – універсальны, смелы начны драпежнік, аб чым сведчаць некалькі цікавых выпадкаў, сведкай якіх мне давялося быць... У цэнтры вёскі, на паляўнічым участку адной з пар сычоў стаяў звычайны вулічны ліхтар. У цёплыя летнія ночы яго электрычнае святло прываблівала вялікую колькасць лятаючых насякомых. Прываблівае ён і некалькіх вясковых катоў, шэрых рапух і вожыка, яны харчаваліся падаючымі долу насякомымі, якія апальвалі свае крылы аб лямпачку ліхтара. Без усялякіх канфліктных сітуацый, але па іерархіі і памерах ахвяр, гэтая кампанія дзяліла паміж сабой невялічкі кавалак асфальта пад ліхтаром. Аднак былі яшчэ адны госці на гэтай рэгулярнай «пірушцы». Пара сычоў, нібы начныя маланкі, раз-пораз праносіліся ў святле ліхтара, выхопліваючы ў палёце начных матылёў, якія павольна па спіралепадобнай траекторыі апускаліся ўніз. Затое ў другім населеным пункце ў соў пад аналагічным ліхтаром не было аніводнага канкурэнта. Неаднаразова даводзілася назіраць пешыя зборы ежы мясцовай пары сычоў.

Звяртае на сябе ўвагу сыч-сіпель і голасам, якім прырода надзяліла яго вельмі шчодра. Ад яго можна пачуць і свіст, і гуканне, і мяўканне, і брэх, якія могуць і здзівіць, і насцярожыць чалавека.

Дарэчы, прысутнасць сычоў у некаторых мясцінах – вельмі сур'ёзная нагода для шматлікіх забабонаў, праклёнаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што чалавек часта баіцца сыча больш, чым сыч чалавека. Прынамсі, аднойчы, пры правядзенні ўлікаў, на адным з жывёлагадоўчых комплексаў, мясцовы даглядчык падвёў нас да кароўніка, які стаяў на водшыбе, і загадкава распавёў страшную гісторыю...

Колькі гадоў таму гэты кароўнік абсалютна нічым не адрозніваўся ад усіх астатніх на комплексе, пакуль там не з'явілася сава. Спачатку памёр калгаснік, які даглядаў і карміў размешчаны там статак дойных кароў. На другі год памерла адна з даярак. Валавы надой малака з таго кароўніка раней быў самы вялікі, але цяпер з кожным годам ён толькі памяншаўся. Практычна ўсе калгаснікі абміналі гэты кароўнік, нават у светлы дзень, а з надыходам ночы ён і ўвогуле быў нейкім містычным і загадкавым збудаваннем, якое навявала жах не толькі на комплекс, але і на ўсю вёску.

Цёплай летняй ноччу нам з сябрам пашчасціла пачуць яшчэ адну загадкавую гісторыю пра сыча на Камянеччыне. Вартаўнік збожжасушыльнага цэха паведаміў аб маленькай, але вельмі крыважэрнай і моцнай саве, якая колькі год трымала ў пастаянным жаху ўсіх мясцовых шызых галубоў. Быццам бы ўначы яна ганяла і палохала голубоў, а раніцай на збожжатаку знаходзілі мёртвых птушак. У дадатак расказчык паведаміў аб знікаючых удзень на мясцовых вясковых падворках курэй, што таксама, напэўна, было справай той жа савы.

Слухаючы падрабязнасці крывавай гісторыі, мы асвятлілі ліхтарамі бэлькі пад дахам збожжасушыльнага цэху – над нашымі галовамі сядзеў і ўважліва пазіраў уніз малады сыч-сіпель. Ціхенька, каб не спалохаць, мы паказалі яго вартаўніку, які «апазнаў забойцу».

Пад час нашага расповяду аб асаблівасцях жыцця і харчавання гэтага мілага жыхара мясцовай фермы, сыч, быццам ведаючы, што гаворка ідзе аб ім, не саромеючыся святла, паказаў нам некалькі сваіх фірменых трукаў. Разглядаючы нас зверху, пачаў разгойдвацца, галава ж яго ў гэты час заставалася нерухомай. Затым, хуценька перабегшы па бэльцы, ён пачаў паварочваць галаву ў розныя бакі. Здавалася, што сыч проста дурэе, але ён, як сапраўдны комік, захоўваў цалкам сур'ёзны выгляд.

Знішчаючы вялікую колькасць дробных грызуноў і шматлікіх бесхрыбетных, сыч-сіпель вельмі дапамагае людзям у справе захавання ўраджаю. Змяненне адносін да яго, дапамога чалавека біятэхнічнымі мерапрыемствамі, нязначныя змены пры вядзенні гаспадаркі – гэта некаторыя з крокаў да павелічэння колькасці гэтых сімпатычных стварэнняў.



# УШАСТАЯ СОВА В ИСКУССТВЕННЫХ ГНЕЗДОВЬЯХ

**Денис КИТЕЛЬ,**
Западно-Полесское региональное отделение ОО «АПБ», Гродно

Тихий весенний вечер вдруг нарушает глухое, немного зловещее, однотонное томное ворчание, которое, то отдаляясь, то раздаваясь совсем близко, как будто будит от зимнего сна еще не оживший лес. Не растаял под темными еловыми ветками снег, ветер не согнал с рек лед, а ушастые совы к своим гнездовым территориям уже возвращаются. Сначала прилетают самцы; они ищут старые сорочьи и вороньи гнезда, проверяют их на прочность, ведь именно в них спустя полтора месяца будет высиживать новое поколение сов самка. Каждую ночь оглашая окрестности регулярными криками, самцы ревностно охраняют свои территории, они ждут самок, с которыми несколько месяцев будут делить гнездо и вместе выращивать птенцов. Через час после того, как закат окрасит на горизонте небо, и постепенно затихнут все дневные звуки, самцы вылетят на окраину «своего» леса и будут до середины ночи, постоянно переминаясь с ноги на ногу и поворачивая голову, ожидать свои вторые половинки...

Как только приблизившаяся самка подаст голос, более протяжный, похожий на ленивое мяуканье котенка, самец начнет суетливо носиться вокруг, совершая в какой-то момент прямолинейный полет, во время которого будет глухо хлопать крыльями под своим телом. Необычно слышать такое от совы, ведь структура каждого совиного пера исключает возможность производить звуки, что обеспечивает безупречный бесшумный полет, позволяющий сове успешно охотиться по ночам. Исключительная нежность ощущается в каждом хлопке. Он адресует их самке, и она понимает его, это словно общение без слов, понятное лишь двоим...

Перед откладыванием яиц сова-самка обязательно сама проверяет гнездо, садится и пробует выкопать в подстилке ямку, слегка расширяет лоток или разбрасывает «крышу» у сорочьего гнезда. Если ее все устраивает, вскоре в гнезде появляется 5–7 абсолютно белых матовых яиц, практически круглых, отложенных с периодичностью в день-два. Поэтому и птенцы появляются не все сразу, а с таким же интервалом. Слепые и беспомощные, однако уже покрытые густым бело-розовым пухом, они обладают отменным аппетитом, и с этой поры у родителей практически не остается времени «на себя», им приходиться подолгу охотиться, чтобы прокормить все свое прожорливое семейство.

Спустя месяц приходит время покидать гнездо, но совята делают это очень осторожно, сперва перебираясь на соседние с гнездом ветки, после совершая недалекие планирующие перелеты с дерева на дерево. И лишь когда окончательно раскроются «трубки» маховых и рулевых перьев, их полет станет более уверенным, стремительным и маневренным. Часто по неосторожности и неумелости птенцы падают на землю, не долетев до нужного места. Находя такого «беспомощного» пернатого хищника, люди обычно воспринимают его за «выпавшего из гнезда» или «оставшегося без родителей» бедолагу. В конце апреля – начале мая самыми популярными являются звонки на тему: «Мы нашли совенка. Что делать?». Тяжело объяснить, что лучшее, чем можно ему помочь, – это посадить повыше на дерево и больше не трогать. Обычно такой ответ воспринимается как нежелание ехать на место и делать все самому. Хотя такие операции часто просто неосуществимы из-за того, что находишься далеко от места находки.



ФОТО: Д.КИТЕЛЬ

На первый взгляд в семьях ушастых сов все просто замечательно. На самом же деле существует целый ряд трудностей, которые совы должны преодолеть, чтобы подарить своим птенцам счастливое будущее.

Самая главная из них, как это ни странно, – гнезда. После исчезновения из «дикой природы» серой вороны и стремительного переселения этого вида в поселения человека, произошедшее сравнительно недавно, некоторым парам ушастых сов просто-напросто «не достается» гнезд, из-за чего совы могут совсем не приступать к размножению...

Ежегодно с опушек средневозрастных боров, излюбленных мест


ФОТО: Д.КИТЕЛЬ

обитания ушастой совы, можно слышать токовые крики самцов, но здесь очень и очень редко встречается что-то подходящее для будущего гнезда. Все чаще и чаще отмечаются случаи соседства сов с человеком. Парки, аллеи, скверы, кладбища становятся практически основными местами их гнездования. Здесь всегда полно пустующих гнезд, а отдаленность мест для охоты как-то не особо смущает родителей.

Много лет подряд в моем родном городе Малорите на территории школы поселяются совы. У них имеется «договоренность» с сороками: совы занимают прошлогоднее сорочье гнездо, а сороки строят новое. К следующему году гнездо, где выросли совята, приходит в негодность, поэтому совы снова изгоняют хозяев и заставляют строить новое гнездо. И так из года в год, и сорок это, по всей видимости, никак не смущает. Каждый вечер можно наблюдать пролетающих через центр города, самое оживленное место, сов. Они летят в парк, где смогут добыть пропитание для себя, а чуть позже и для своих детей.

Практически в каждом грачевнике присутствует семья ушастых сов. Они ведут себя тихо и из-за постоянного гомона, доносящегося из колонии, могут быть совсем незаметными. Несколько лет назад одно из таких гнезд, находящихся как раз напротив окон областной больницы Бреста, наблюдал весь рабочий персонал. Как они переживали пропажу одного из птенцов! Это была целая трагедия! И все-таки замечательно, что есть люди, которым небезразлична судьба наших меньших братьев... Тем не менее, люди все чаще и чаще разрушают колонии грачей в небольших и крупных городах.


ФОТО: А.АБРАМЧУК

Выросшие «среди людей» птенцы далеко не всегда доживают до взрослого состояния. Падая еще плохо летающими на землю, они быстро становятся добычей бродячих котов и собак.

Но есть выход! Если обеспечить сов необходимым числом гнездовых платформ, можно значительно повысить количество гнездящихся пар. Стартовавший совсем недавно на Брестчине проект «Природа объединяет людей», финансируемый за счет средств Программы Малых Грантов Глобального Экологического Фонда, направлен на изучение всех видов совообразных, обитающих на данной территории. В рамках проекта проводятся специальные полевые летники по наблюдению за совами и изготовлению искусственных гнездовий для них. Самыми простыми в изготовлении являются гнезда для ушастых сов. Это могут быть деревянные ящики, старые коши и корзины, ведра с вывалившимся дном, тазы и пр. При правильном развешивании практически все они могут уже на следующий год



ФОТО: С.АБРАМЧУК

быть заселены совами. Искусственные гнездовья прочнее, чем естественные гнезда, зачастую «не доживающие» до вылета птенцов, поэтому и успех гнездования в них значительнее. Сделать и повесить такое гнездовье может даже ученик 6-7-го класса! Это гораздо интереснее и важнее, чем, например, уже приевшаяся традиция делать скворечники.

Следует вспомнить, что ушастая сова, как ни одна другая из наших сов, обладает большой приверженностью к питанию именно мышевидными грызунами – они составляют в ее рационе 80–90%. Бесспорно, поселившись на окраине поля, засеянного какой-либо сельскохозяйственной культурой, она принесет человеку громадную пользу!

Но все реже и реже приходится видеть сову в естественной среде обитания. В 2007 году в окрестностях Малориты 11 пар сов гнездилось в искусственных гнездовьях. В 2008 году их количество достигло 20! Налицо дефицит подходящих мест гнездования.

Что вскоре произойдет, переберется ушастая сова в города и села или останется в дикой природе, покажет время. Пока же мы лишь констатируем некоторые проблемы этого вида совы и предлагаем возможные пути их решения. И было бы замечательно, чтобы в каждом районе нашей страны появились небольшие «биотехнизированные» уголки, где совы могли бы постоянно гнездиться и не тратить время на поиски малочисленных естественных гнезд.

# «ЛЮБІЦЬ ПРЫРОДУ ПРАЗ ЯЕ ПАЗНАННЕ»

***Да 125-годдзя з дня нараджэння акадэміка Тадэвуша Іваноўскага (Tadas'a Ivanauskas'a)***

**Дзьмітры ВІНЧЭЎСКІ**

16 снежня 2007 г. споўнілася 125 год з дня нараджэння нашага вялікага земляка, выбітнага заолага і арнітолага, акадэміка Тадэвуша Іваноўскага. Сябры АПБ адзначылі гэты юбілей разам з калегамі з Літоўскага арніталагічнага таварыства LOD, (BirdLife у Літве) і жыхарамі в.Галавічполле (Шчучынскі раён на Гарадзеншчыне), недалёка ад якой знаходзіцца родавы маёнтак Іваноўскіх Лябёдка.

Дзякуючы падтрымцы Міністэрства адукацыі Беларусі і адміністрацыі Галавічпольскай сярэдняй школы-саду, атрымалася зладзіць сапраўдную ўрачыстасць. У холе школы была адкрыта фотавыстава «Свет птушак», якая напалову складалася са здымкаў Мікалая Гулінскага з Гародні і літоўскага фотамайстра Кястуціса Чапенаса – прэзідэнта LOD з Панявежыса. А Васіль Грычык, першаадкрывальнік беларускага перыяду жыцця акадэміка (падрабязней пра гэта гл. «Птушкі і мы» (3-2001), і аўтар гэтых радкоў распавялі мясцовым жыхарам і сябрам АПБ з Мінска і Гродна пра жыццё і дзейнасць славутага земляка.

Самыя раннія дакументальныя звесткі з гісторыі роду

Іваноўскіх гербу «Рагач» (Rogalia) сягаюць сярэдзіны XVII ст. –

яго прадстаўнікі займалі розныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім.

Менавіта ад іх паходзіць наш славуты зямляк.

**Тадэвуш Іваноўскі** (пазней – Тадас Іванаўскас, або Tadas Ivanauskas) нарадзіўся 16.12.1882 г. у фальварку Лябёдка. Бацька, Леанард, выдатны хімік-тэхнолаг і аматар прыроды, акрамя захаплення сельскай гаспадаркай, цікавіўся таксідэрміяй. Больш за тое, ён зрабіў хатні музей, т. зв. «Пакой птушак», дзе былі чучалы не толькі птушак, але і іншых жывёл. Менавіта ад бацькі Тадэвуш заразіўся цікаўнасцю да прыроды, што і вызначыла яго далейшы жыццёвы шлях. Ад бацькі ён навучыўся паляваць, рабіць прэпараты і збіраць біялагічныя калекцыі. Ужо ў 12-гадовым узросце, фактычна яшчэ падлеткам, ён ведаў шмат відаў раслін і насякомых, а таксама амаль усіх мясцовых птушак.



## Гады вучобы

Спачатку Тадэвуш вучыўся дома, а з 1895 г. – у гімназіі ў Варшаве. Тут ён працягваў цікавіцца прыродай, хадзіў ва універсітэцкі заалагічны музей, дапамагаў рабіць экспанаты і стаў добра вядомы не толькі персаналу музея, але і многім выкладчыкам. Падтрыманы імі, Тадэвуш пачаў збіраць уласную калекцыю птушак і насякомых. У 1901–03 гг. Тадэвуш працягвае навучанне ў гімназіі ў Санкт-Пецярбурзе, пасля заканчэння якой паступае на фізіка-матэматычны факультэт мясцовага універсітэта з метай вывучаць навукі аб прыродзе. Тут ён праслухаў курс заалогіі бесхрыбетных А.Догеля і заалогіі хрыбетных В.Шымкевіча.

Шмат часу Тадэвуш праводзіў у Кунсткамеры. Таксама менавіта ў Пецярбурзе ён усталяваў адносіны з дзеячамі літоўскай дыяспары. Пасля выбуху рэвалюцыі 1905 года бацька адаслаў яго ў Лябёдку, а потым накіраваў на далейшую вучобу на факультэт натуральнай гісторыі Сарбонскага універсітэта ў Парыжы. Тут Тадэвуш галоўным чынам цікавіўся заалагічнымі практыкумамі, на якіх выдатна праявіў сябе.

У 1905 г. Тадэвуш прачытаў у Парыжы першую публічную лекцыю, прысвечаную Літве. Канікулы студэнт Сарбоны праводзіў, паглыбляючы свае веды, у Брэтані, на біялагічнай станцыі Roscof ды ў іншых мясцінах. Тут ён пазнаёміўся з марской флорай і фаунай. Пад час паездкі ў Англію, глыбока ўражаны мясцовымі паркамі, заалагічнымі садамі і заалагічным музеем, ён вырашыў стварыць нешта падобнае на Бацькаўшчыне.

Менавіта ў Францыі ён пачаў сталець як натураліст. Найбольш ён цікавіўся батанікай, геалогіяй і прасцейшымі. У 1907 г. Тадэвуш прыняў удзел у экспедыцыі на поўдзень Францыі і ў Іспанію, пад час якой наведаў біялагічную станцыю Banyuls каля Міжземнага мора. Каб трапіць у Барселону, Тадэвуш пешшу і на цягніку перасёк горы. Яго першы навуковы артыкул быў прысвечаны вывучэнню Protozoa на біялагічнай станцыі Vimulle-Wimereux на ўзбярэжжы Атлантычнага акіяна.

У 1909 г. Тадэвуш скончыў Сарбонскі універсітэт і вярнуўся дахаты, дзе праз год, пасля паспяховай здачы іспытаў па пацверджанню свайго французскага дыплома, атрымаў дыплом першага класа Санкт-Пецярбургскага імператарскага універсітэта ў галіне прыродазнаўчых навук.

У 1914 г. Іваноўскі здзейсніў выправу на Поўнач – у Мурманск і Паўночную Нарвегію. У 1917 г. адбылося яшчэ адно падарожжа ў тым жа напрамку – з Архангельска экспедыцыя рушыла на Гаўрылавы астравы і на Кольскі паўвостраў. На жаль, мноства экспанатаў з калекцый, якія былі сабраныя ў гэтых мясцінах, было страчана пад час бальшавіцкага перавароту і грамадзянскай вайны.

## Літоўскі перыяд жыцця

У красавіку 1918 г. Іваноўскі, ці Іванаўскас, перабіраецца ва ўжо незалежную Літоўскую рэспубліку. У паўднёва-усходняй частцы гэтай краіны, у в. Musteikos разам з жонкай Ганаратай (Honorata) яны заснавалі першую прыватную літоўскамоўную школу, дзе будучы прафесар распачаў сваю выкладчыцкую кар'еру. Тут ён пачаў вывучаць лясную фауну і збіраць калекцыі для будучага музея. Тадэвуш (ці ўжо Тадас) планаваў

яшчэ доўга заставацца тут, але, па яго словах, «польская акупацыя вымусіла пакінуць гэтыя мясціны і перабрацца ў горад, на гэты раз у Коўна». У тыя часы гэта была сталіца Літвы, якая хутка пераўтваралася ў культурны цэнтр. Амаль усё астатняе жыццё і навуковая кар'ера Іванаўскаса былі звязаны з гэтым горадам.

Перабраўшыся ў Коўна, Тадэвуш узяўся за выкананне нялёгкай задачы – стварэнне Заалагічнага музея. Цікава адзначыць, што аснову першых экспазіцый утварылі экспанаты, сабраныя самім Тадэвушам або яго бацькам, якія з цяжкасцямі перавезлі ў Коўна з Лябёдкі.

Аднак інтарэсы і арганізатарскія здольнасці Іванаўскаса аказаліся больш шырокімі. У 1929 г. дзякуючы яго намаганням была створана першая ў Літве і адна з першых ва Усходняй Еўропе Станцыя кальцавання птушак Ventes Ragas у дэльце Нёмана.

Пасля першага наведвання ў 1920 г. на поўдні Літвы возера Жувінтас і навакольных балот, уражаны багаццем мясцовай арнітафауны, Іванаўскас прыклаў шматлікія намаганні па стварэнні ў гэтым месцы запаведніка, што нарэшце атрымалася зрабіць у 1937 г. А ў наступным годзе ў Каўнасе, таксама дзякуючы яго намаганням, быў заснаваны заапарк.

У 1920 г. дзякуючы актыўнаму ўдзелу Іванаўскаса таксама ў Каўнасе былі створаны Вышэйшыя навучальныя курсы Літвы. Да 1922 г. ён быў адным з выкладчыкаў курсаў і кіраўніком аддзялення прыроды. 16 лютага 1922 г. Вышэйшыя курсы былі ператвораны ва універсітэт Літвы (з 1930 г. – універсітэт Вітаўта Вялікага – Vytautas Magnus University). З гэтага ж часу Т.Іванаўскас атрымаў там пасаду прафесара. Будучы адным са стваральнікаў універсітэта, ён працаваў прафесарам на факультэце матэматыкі і прыроды з 1922 па 1940 гг.




**Помнік Т. Іванаўскасу, усталяваны ў Каўнасе каля заалагічнага музея, які носіць яго імя.**

**Сямейная сядзіба Іваноўскіх Лябёдка. Сучасны выгляд. Фота Дз. Вінчэўскага.**



У 1922 г. ён засноўвае і ўзначальвае кафедру заалогіі і параўнаўчай анатоміі, якая ў 1929-м перарасла ў факультэт заалогіі. Як прафесар Іванаўскас праводзіў практыкумы і семінары, чытаў лекцыі па заалогіі, а пазней вёў спецкурсы па арніталогіі, энтамалогіі і тэрыялогіі. Па свайму прыкладу ён пасылаў сваіх асістэнтаў на практыку ў іншыя навучальныя ўстановы Еўропы.

У 1924 г. разам з В. Ластоўскім і К. Дуж-Душэўскім ён падрыхтаваў артыкул «Наменклатура беларускіх птушак» («Крывіч», №1 (7), Каўнас, 1924, с. 48–59, 118). Фактычна гэта была першая спроба навуковага абагульнення беларускіх назваў для 199 відаў найбольш распаўсюджаных на тэрыторыі Беларусі птушак. Цікава адзначыць, што многія з прапанаваных назваў цалкам, а некаторыя з невялікімі зменамі, былі выкарыстаны ўжо сучаснымі беларускімі арнітолагамі для складання Навуковага спісу назваў птушак Еўропы ў 1999–2000 гг.

Агульны даробак Іванаўскаса – 617 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, сярод іх – больш за 30 манаграфій, падручнікаў і метадычных дапаможнікаў. Адна з яго прац, якая заслугоўвае найбольшай увагі, «Птушкі Літвы» у трох тамах. Кнігі ўпершыню выйшлі ў 1933–55 гг., другое выданне – ў 1957–64 гг. Найбольш вядомыя яго кнігі: «Вызначальнік для калекцыявання насякомых» (1924), «Чалавек і жывыя істоты» (1928), «Ключ да /вызначэння/ птушак Летувы» (1931), «Дзённік натураліста» (першае выданне ў 1955 г.), «Пра дзікіх звяроў і птушак» (1956), «Прэснаводныя рыбы Летувы» (1956, у сааўтарстве), «Жувінтас» (1961, у сааўтарстве), «Біялогія» (1970) ды іншыя. За выключна вялікія дасягненні ў развіцці літоўскай навукі прафесар Іванаўскас атрымаў Рэспубліканскую навуковую прэмію – найвышэйшую ўзнагароду для навукоўцаў у Літве.

Вельмі выніковай была яго шматгадовая выкладчыцкая праца. Шмат маладых навукоўцаў праводзілі свае даследаванні і абараняліся пад яго кіраўніцтвам. Студэнты ўспамінаюць яго лекцыі як вельмі цікавыя і жывыя, практычныя ж заняткі былі заўсёды багата ілюстраваны прыкладамі з заалагічнага музея.

Пад кіраўніцтвам Іванаўскаса выраслі шматлікія спецыялісты – біёлагі, медыкі, леснікі, аграрнікі. Выкладаў праф. Іванаўскас у некалькіх вышэйшых навучальных установах: да пачатку Другой Сусветнай вайны ва універсітэце Вітаўта Вялікага ў Каўнасе, са студзеня 1940 па 1964 гг. – на кафедры заалогіі ў Вільню-

скім універсітэце, з 1944 па 1964 г. адначасова на факультэце біялогіі Каўнаскага медыцынскага універсітэта і на факультэце лесаводства ў Літоўскай сельскагаспадарчай акадэміі (у 1950-1974 гг.).

Многія яго студэнты былі ўцягнуты ў навуковую працу і дзейнасць па рацыянальнаму выкарыстанні прыродных рэсурсаў. Дэвізам яго шматлікіх вучняў сталі словы прафесара: «Любіць прыроду праз яе пазнанне». У 1941 г. у якасці прызнання заслуг Т.Іванаўскаса перад літоўскай навукай і выключнага месца, якое ён займаў у Акадэміі навук Літвы, ён быў абраны акадэмікам. Адразу па заканчэнні вайны, калі навуковыя інстытуты Літвы ўсё яшчэ знаходзіліся ў стане фармавання, Т.Іванаўскас быў прызначаны сфармаваць структуры Інстытута біялогіі і стаў яго першым дырэктарам. Гэтую пасаду ён займаў з 1945 па 1950 гг. У гэты час ён падрыхтаваў да друку другі том «Птушак Літвы» і пачаў пісаць трэці. Менавіта гэтыя кнігі заклалі фундамент для сучасных арніталагічных даследаванняў у Літве, бо Іванаўскас падрыхтаваў не толькі павідавы агляд птушак краіны, але і фактычна арніталагічную тэрміналогію ў літоўскай мове. Арніталагічная станцыя на мысе Vente і арніталагічны запаведнік Жувінтас, створаныя ім, былі далучаны да аддзела заалогіі пры новаствораным Інстытуце экалогіі. У яе штаце працавалі 11 чалавек. Менавіта яны працягвалі і развівалі традыцыі праф. Іванаўскаса ў даследаванні птушак. З 1953 г. Іванаўскас быў чальцом бюро ў аддзеле хіміі і біялогіі Літоўскай Акадэміі навук, а ў 1955-1957 гг. – Старшынёй камітэта аховы прыроды, створанага пры прэзідыуме Акадэміі.

### Прыродазнаўчыя экспедыцыі

Т.Іванаўскас інтэнсіўна кантактаваў з навукоўцамі з іншых краін, а таксама быў арганізатарам і актыўным удзельнікам шматлікіх навуковых падарожжаў і экспедыцый.

Пералічаныя ніжэй факты ілюструюць шырыню яго навуковых інтарэсаў, як і пацвярджаюць тое, што ён быў добра вядомы не толькі ў літоўскіх акадэмічных колах. У 1919 г. Іванаўскас быў абраны чальцом Рускага энтамалагічнага таварыства; у 1922 г. універсітэт Падуі (Італія) надаў яму ступень ганаровага доктара; у 1923 г. Іванаўскас прадстаўляў Літву на ўрачыстасцях, прысвечаных 100-годдзю Пастэра ў Францыі; у 1924 г. ён удзельнічае ў адзначэнні 700-годдзя універсітэта Неапаля. У 1930 годзе з яго прапановы ў Літве была заснавана секцыя Міжнароднага камітэта па ахове птушак. Праф. Іванаўскас таксама быў чальцом Нямецкага лімналагічнага таварыства. У 1922 г. ён арганізоўвае экспедыцыю на паўвостраў Істрыя ў Адрыятычным моры, ў 1929-м – на эстонскі востраў Вілсанд'і. У 1931 г. Іванаўскас ажыццявіў экспедыцыю ў Бразілію (пра што напісаў асобную кнігу «Тры месяцы ў Бразіліі» – Ivanauskas, 1932), а ў 1947 г. прыняў удзел у экспедыцыі ў дэльту Волгі (у Астраханскі



**Жонка Тадаса Іванаўскаса Ганарата**

запаведнік), у наступным годзе – у Туркменію (у нізоўі Амудар'і і ў Каракумы), у 1949-м – у Ленкаранскую даліну Азербайджана. Яшчэ праз два гады – у Паўночны Казахстан. У 1956 г. ён паўтарае выправу ў Астраханскі запаведнік, праз чатыры гады едзе ў Таджыкістан, у 1962-м – у нізоўі ракі Об.

Праф. Іванаўскас працаваў амаль да самай сваёй смерці. Памёр ён у Каўнасе 1 ліпеня 1970 г. Пахаваны ў Каўнаскім раёне на могілках Tabariskes, якія знаходзяцца недалёка ад дэндралагічнага парка, які ён заснаваў.

### Ушанаванне памяці Т.Іванаўскаса

Ніжэй прыведзены толькі найбольш значныя праявы па ўшанаванню яго памяці. Усе навуковыя паперы і артыкулы прафесара былі каталагізаваны і даступны для публікі ў бібліятэцы Літоўскай Акадэміі навук. У 1970 г. Каўнаскі за-




алагічны музей быў названы ў гонар яго заснавальніка – Тадаса Іванаўскаса, а праз год каля ўваходу ў музей з'явіўся яго бюст, выкананы скульптарам А.Шлапікасам. У 1976 г. Інстытут заалогіі і паразіталогіі выпусціў адмысловую кнігу «Тадас Іванаўскас: жыццё і дзейнасць», у якой некалькі аўтараў аналізавалі розныя бакі шматграннай дзейнасці знакамітага навукоўца. У кнізе ўпершыню была сабрана поўная бібліяграфія навуковых і навукова-папулярных прац Іванаўскаса, а таксама спіс прысвечаных яму артыкулаў (да 1983 года апублікавана 120 такіх артыкулаў). У тым жа годзе з'явіўся і дакументальны фільм, прысвечаны жыццю выбітнага заолага. Яшчэ праз год, у 1977 г., мастак Алоізас Ёнушаўскас стварыў памятны бронзавы медаль з выявай Т.Іванаўскаса.

Да стагоддзя навукоўца была заснавана прэмія яго імя, якой адзначаюцца найбольш значныя дасягненні ў біялогіі, ахове прыроды і галіне адносін чалавек–прырода. Праз 20 год яна змяніла назву на Мемарыяльную прэмію і ўручаецца раз на 4 гады Літоўскай Акадэміяй навук. Літоўскае арніталагічнае таварыства (LOD) заснавала ўласную прэмію імя Т.Іванаўскаса за выдатныя дасягненні ў вывучэнні і ахове птушак.

У Каўнаскім раёне, у м. Obelyne, у доме, у якім прафесар жыў з 1920 г. да самай смерці, створаны мемарыяльны музей. Ахоўваецца таксама і парк, які знаходзіцца непадалёк. Адзін з родаў насякомых быў названы ў гонар навукоўца – *Ivanauskella*. У двух найбольшых гарадах сучаснай Літвы – Каўнасе і Вільнюсе – яго імем названы вуліцы. У 1994 г. выйшаў зборнік выбраных твораў біёлага пад назвай «Я прыняў рашэнне». А 25 красавіка 1998 г. 500-тысячным накладам выйшла паштовая марка з партрэтам праф. Т.Іванаўскаса.

Т.Іванаўскас быў узнагароджаны між іншым Зоркай Гедыміна і Зоркай Арганізацыі Вольных стралкоў.

*Дзякую Ірыне Варкулевіч за тэхнічную дапамогу падчас падрыхтоўкі артыкулу.*

# ВЯЛІКАЯ БЕЛАЯ ЧАПЛЯ – ПТУШКА 2008 ГОДА

**Сяргей ЗУЁНАК**

Самая прыкметная з нашых чапляў, ды і ўвогуле з усяе цыбатай бусловай радні – безумоўна, вялікая белая чапля. Гэта буйная птушка, якая сваімі памерамі і выглядам вельмі нагадвае добра ўсім вядомую чаплю шэрую з адным толькі адрозненнем – афарбаваная яна ў чыста белы колер, і толькі жоўтая дзюба і чорныя лапы падкрэсліваюць святочную чысціню яе ўбранства.

Параўнальна нядаўна, паўтара-два дзесяцігоддзі назад, гэта прыгожая птушка была вельмі рэдкім госцем у нашай краіне – час ад часу асобіны, якія гнездаваліся ў Расіі і на Украіне, залёталі ў паўднёвыя раёны Беларусі. Часцей за ўсё сустрэць белую чаплю можна было ў далінах Прыпяці і Дняпра ў другой палове лета – падчас разлёту маладых птушак.

Вялікая белая чапля мае так званы разарваны арэал, які больш-менш вялікімі тэрыторыямі пакрывае добрую частку зямной паверхні: Паўднёва-Усходнюю Еўропу, Усходнюю Азію, Філіпіны, Малайскія астравы, Новую Зеландыю, Аўстралію, Афрыку, Паўднёвую і Паўночную Амерыкі. Найбольш буйны кавалак еўрапейскай часткі арэала пачынаецца ад берагоў Чорнага мора, ахоплівае значную частку Украіны і Малдовы і падыходзіць да паўднёвых раёнаў нашай краіны. Зразумела, што межы арэала ў адрозненне ад межаў дзяржаўных не маюць дакладных абрысаў і могуць расцягвацца на дзесяткі альбо нават сотні кіламетраў – у залежнасці ад стану біятопаў, дзе жыве той альбо іншы від. Вось такія прадстаўнікі ўскрайкаў украінскай папуляцыі вялікай белай чаплі і «парушалі» на працягу доўгіх гадоў дзяржаўныя межы між нашымі краінамі, часам залятаючы на тэрыторыю Беларускага Палесся. У ліку беларускай арнітафауны вялікая белая чапля ў гэты час значылася як «рэгулярна залётны від» які сустракаецца пераважна ў паўднёва-усходніх раёнах рэспублікі. З нагоды сваёй нешматлікасці чапля трапіла на старонкі Чырвонай кнігі, хаця у той час захады па яе ахове выглядалі чыста фармальнымі – від гняздуецца на Украіне, да нас зрэдку залятаюць маладыя птушкі альбо асобіны, якія не прымаюць удзелу ў размнажэнні – ну што тут можна рэальна зрабіць для падтрымання яе папуляцыі?

Для большасці чаплевых птушак вельмі характэрныя перыядычныя ваганні колькасці, якія залежаць ад цэлага шэрагу прычын – кліматычных, біятапічных, стану харчовай базы і г.д. Падпарадкоўваецца гэтаму правілу і вялікая белая чапля – на працягу XIX і першай паловы XX стагоддзя на большай частцы арэала, а ў Еўропе – дакладна, гэты від перажываў не лепшыя часы: колькасць яго паўсюдна скарачалася, што дало падставы ўзяць від пад ахову ў большасці краін, дзе ён сустракаецца. Акрамя таго, у XIX і пачатку XX стагоддзяў гэтыя птушкі масава знішчаліся з тае нагоды, што ў шлюбным убранстве яны маюць ажурнае пер'е на спіне, так званыя «эгрэткі», якое выкарыстоўвалася для ўпрыгожвання жаночых капялюшыкаў.

Прыкладна ў сярэдзіне мінулага стагоддзя сітуацыя з белай чапляй пачала нармалізавацца паўсюдна ў межах еўрапейскай часткі яе арэала, а праз некаторы час колькасць гэтай прыгожай птушкі стала пакрысе павялічвацца. Пачынаючы з 80-х гадоў мінулага стагоддзя белую чаплю ўсё часцей і часцей сталі сустракаць па ўсёй Беларусі. Паралельна з павелічэннем колькасці від распачаў паступовую, але няўхільную экспансію ў паўночным накірунку – зараз вялікую белую чаплю можна сустрэць амаль у любым пункце Беларусі, а палескія краявіды цяпер нават немагчыма сабе ўявіць без гэтай цудоўнай беласнежнай птушкі. Па дадзеных Чырвонай кнігі (2006), агульнабеларуская папуляцыя ацэньваецца ў 50-250 гняздуючых пар, аднак цяпер рэальная яе колькасць можа аказацца разы ў два-тры большай.

Дарэчы, на Палессі белая чапля ўжо на працягу амаль дзесяці гадоў паспяхова гняздуецца, далучаючыся да буйных каланіяльных пасяленняў сваіх шэрых сястрыц альбо ўтвараючы ўласныя невялікія калоніі на парослых трысняго́м сажалках рыбгасаў і рачных зато-


ФОТА: Дз.ЯКУБОВІЧ

ках альбо на лазовых кустах у непралазных поймавых зарасцях. Усе вядомыя на сённяшні дзень месцы гнездавання вялікай белай чаплі знаходзяцца ў паўднёвай частцы краіны, пераважна ў пойме Прыпяці, дзе існуюць самыя спрыяльныя ўмовы для пражывання гэтага віду. Шырокая пойма, пранізаная незлічонымі затокамі і старыцамі, непралазныя лазняковыя зарасці, вялікія паплавы, якія падчас паводкі ўяўляюць сабой прырэчныя мелкаводдзі, а акрамя таго, наяўнасць дастатковай колькасці рыбгасаў з багатымі на рыбу мелкаводнымі сажалкамі – гэта менавіта тое, што патрэбна белай чаплі для жыцця.

Той факт, што вялікая белая чапля адзначана на гнездаванні ў Літве, дае падставы спадзявацца на тое, што геаграфія вядомых у Беларусі пасяленняў гэтага віду ў хуткім часе пашырыцца – увогуле прыдатных для гнездавання месцаў хапае не толькі на Палессі.

Нягледзячы на такія аптымістычныя прагнозы, вялікая белая чапля патрабуе да сябе павышанай увагі прыродаахоўцаў. Справа ў тым, што, акрамя ўсялякай бесхрыбетнай воднай дробязі, яна з задавальненнем ласуецца рыбай, і толькі знаходжанне на старонках Чырвонай кнігі не дазваляе аднесці яе да катэгорыі так званых «непажаданых відаў». У апошнія гады ў многіх рыбаводных гаспадарках нашай краіны разгарнулася барацьба з рыбаеднымі птушкамі – вялікім бакланам і шэрай чапляй, якія па падліках спецыялістаў наносяць пэўную шкоду рыбгасам.

Усё было б і не так кепска, калі б за адстрэл баклана і шэрай чаплі не назначалася грашовая ўзнагарода, а ў якасці доказу ад паляўнічага не патрабавалася прыносіць верхнюю палавінку дзюбы забітай птушкі. Грошы, як вядома, не пахнуць, а дзюбы розных відаў чапляў даволі падобныя – пад стрэлы несумленных барацьбітоў за развіццё рыбнай гаспадаркі ўсё часцей і часцей сталі трапляцца і ахоўваемыя законам вялікія белыя чаплі. Далей – больш. У пагоні за максімальнай эфектыўнасцю барацьбы (чытай «за лёгкім заробкам») паляўнічыя брыгады з рыбгасаўскіх сажалак перамясціліся на тэрыторыі гнездавых калоній бакланаў і чапляў. Што адбываецца ў такіх выпадках з птушанятамі і дарослымі асобінамі вельмі чуллівых да неспакою белых чапляў, уявіць няцяжка...

Так, летам мінулага года барацьбіты з «непажаданымі відамі», а дакладней, проста браканьеры дабраліся да буйнейшай у нашай краіне калоніі, дзе ў добрым суседстве гнездаваліся шэрыя, вялікія белыя чаплі і бакланы, і ў разгар гнездавога сезону арганізавалі там самую сапраўдную бойню. Зразумела, што асноўнай здабычай гэтых гора-паляўнічых былі шэрыя чаплі і бакланы, але вельмі ўразлівыя да фактара непакою вялікія белыя чаплі ў гэты сезон так і не змаглі паспяхова вывесці птушанят.

Акрамя таго, вядомы выпадкі, калі несумленныя «паляўнічыя» ў пагоні за лёгкім прыбыткам адразалі лапкі і верхнія паловы дзюбаў нават у жывых птушанят белай чаплі.

Дарэчы, сёлета непадалёк ад расстралянай калоніі было знойдзена новае гнездавое пасяленне вялікай белай чаплі, і такія знаходкі спадзяюся яшчэ будуць.

Зусім невыпадкова гэта цудоўная белая птушка была абраная сімвалам 2008 года. Як гэта ўжо здаралася на працягу мінулагодніх кампаній «Птушка года», дзякуючы сябрам АПБ насельніцтва Беларусі даведаецца аб многіх цікавых падрабязнасцях жыцця гэтай птушкі, аб яе праблемах і шляхах іх вырашэння. Ну, а я ў сваю чаргу выказваю надзею, што цудоўныя беласнежныя птушкі, якія не так даўно з'явіліся ў небе над нашай краінай, не зніknуць з яго ніколі, а можа – чаго не здараецца! – нават стануць адным з крылатых сімвалаў Беларусі.



ФОТА: Дз.ЯКУБОВІЧ

# ДЕТИ ПРОТИВ ВЕСЕННЕГО ОТСТРЕЛА ПТИЦ!


*Андрей Бабаев*, 15 лет, Шумилинский р-н, Витебская область



*Наталья Лобобреева*, 15 лет, г.п. Шумилино, Витебская область



*Света Глазунова*, 15 лет, г.п. Шумилино, Витебская область



*Артур Сеньков*, 13 лет, г.п. Шумилино, Витебская область



***Калонія вялікіх белых чапляў.*** *Рака Прыпяць*

ФОТА: СЯРГЕЙ ПЛЫТКЕВІЧ